Я. КУПАЛА



# БЕЗНАЗОЎНАЕ



Дзяржаўнае Выдавецтва Беларусі

МЕНСК — 1925

... О так! Я—пролетар!..
Яшчэ учорах раб пакутны—
Сягоньня я зямлі ўладар
І над царамі цар магутны!

Мне бацькаўшчынай цэлы сьвет,
Ад родных ніў я адвярнуўся...
Адно... ня збыў яшчэ ўсіх бед:
Мне сьняцца сны аб Беларусі!

## У ВЫРАЙ!

Гэй, вольныя птахі, саколія дзеці!
У вырай! Да сонца вясёлкавым шляхам!
Час сонца схапіці і сонцам ірдзеці
І зьведываць сьветы арлiным узмахам.

Гэй, вольныя птахі, патомкі крывічаў!
Да неба! па зоры і гром пяруновы...
Час крыльле расправіць—пагудка ўжо кліча,
Ўжо віхры цярэбяць да шчасьця шлях новы!

Гэй, вольныя птахі, ўладарнікі песьні!
На шляхі пад сьцягі красы і свабоды!..
Час вылецець к славе з пагібельнай плесьні
І песьняй агністай дзівіці народы.

## З НОВЫМ ГОДАМ!

З Новым Годам, з Новым Годам!
З новай песьняй, з новай казкай!
Зачаруем мімаходам
Долі ходы думкай-краскай!

Кінем покліч гулка-звонны
Ад ваконца да ваконца,
Сьвет паклічам мёртва-сонны
Аж да сонца, аж да сонца!

Для унукаў, для праўнукаў
Расьцярэбім сьцежкі-шляхі;
Хай пануюць над прынукай—
Каб аж к небу лёту ўзмахі!..

Над зямлёй зардзіць вясёлка
Посьле бураў, ліхалецьцяў;
Бацьку, маці жыць нялёгка,—
Хай-жа лёгка жывуць дзеці!

З Новым Годам, што крыніцай
Новай пойдзе ў пераходзе,
Беларуская зямліца!
Беларускі наш народзе!

## БЕЗНАЗОЎНАЕ

### 1

Спачатку яно шалясьцела
Вельмі нясьмела,
А потым лізнула ваконца
Ціха, як сонца.

Назаўтра ўзьняло галасочак,
Нібы званочак,
Ды ў час празьвінела так далей
Збуджанай хваляй.

На трэці дзень чуцен быў гоман,
Хоць і надломан,
Але ўжо больш вольны, дасьціпны,
К сэрцу прыліпны.

А далей яно зашумела
Надта ўжо сьмела,
Аж водгульле ў сьветы пабегла
Здольна, разьлегла.

Па пушчах пайшло бураломам—
Дома, за домам.
Бунтарскае грымнула слова
Аж ад аковаў.

Скаваная сіла паўстала
Бурай, навалай...
Надзелі чырвоныя кветкі
Нашы палеткі.

Во, як пачалося ў нас ціха
Тое ўсё ліха,
Што на‘т беларускія межы
Ўсталі з залежы.

2

Масты старыя спалены—
Старыя ланцугі;
Паложаны падваліны
Пад новыя сьцягі.

Узводзіцца будыніна
На іншы склад і лад...
Вароты не зачынены:
Прыходзь і кум і сват.

Ідуць, ідуць з аглядкаю,
Варожаць варажбу:
Ці доўга так пасьвяткуе
Той лад сваю сяўбу.

Яшчэ ня дрэме чорнае
Ў закутках груганьнё
І душы непакорныя
Сачыць, як воўк ягнё.

Мяркуюць так і раюцца,
Ідучы сват і кум...
Ніхто не дакапаецца
Да іхніх слоў і дум.

Ой, крыўда чалавечая,
Вякамі ты расла,
Пажарамі і мечамі
Паслася, як магла.

Калі-ж ты забабонамі
Пакінеш нас карміць,
Над роднымі загонамі
Пятлю крутую віць?!

3

√ Ой, была-ж бяседа, была,
Вельмі гучная бяседа!—
Не адходзіла ад стала
Плойма-чарада суседаў.

Як на рынак ці на кірмаш,
Ад нядзелі да нядзелі,
На каравай пшанічны наш
Машкарой ляцелі, елі.

А маковае малако,
Засалоджанае мёдам,
Пілі смагла, ажна цякло
Па губах іх мімаходам.

А закусвалі мёд і яду
Гаспадыньскай ласкай ўдзячнай,
Тут-жа дзьмуў дудар у дуду,
Каб было піць, есьці смачна.

Дый прышлося плаціць чарадзе
Тэй за гэта баляваньне,
Бо дарма такога нідзе
Ня бывае частаваньня.

Ой, пайшла расплата за доўг—
За яду й пітво адразу...
Задымеў, зацьміўся разлог,
Зварухнуў усю заразу.

√ Хто у рукі папаў—заплаціў,
Іншы ўцёк за многа міляў.
А найболей—кожны скруціў...
Так ня ўсе і заплацілі.

4

Было яно калісьці,
Калі, як жоўталісьце,
        Жылі мы—ня жылі;
Ішлі дні без карысьці,
І сорам было выйсьці
        У сьвет з сваёй зямлі.

Гнаў лісьце злосны вецер
Па полі, па ўсім сьвеце,
        За вёску, за сяло;
На нас ляцела сьмецьце,
Бязладзьдзе, беспрасьвецьце,
        Пятлю віло сіло.

І гэтакая слава,
Як пошасьці праява,
        Буяла па людзях,
Пакуль жыцьцё ласкавай
Усьмешкай і забавай
        Не асьвяціла шлях.

Забліскацелі лужы,
Бяда зьвілася вужам...
        —Ідзе,—крычаць,—вястун!..
І ўзьняўся нехта дужы,
І кінуў кліч дасужы—
        Як помста, як пярун.

Ад воклічу прарока
Схіснулася памрока,
Сьцяг падняла вясна,
І па зямлі шырокай,
Як можа зьмерыць вока,
Пабегла навіна.

Сяляны і сялянкі!
Цацанкі-абяцанкі
Збываюцца для вас;
Выходзьце на палянкі,
Як зоры, як заранкі,
І сейце ў добры час.

## 5

Мы ўсталі песьняй-казкаю
Пад жудаснай павязкаю
Мінулых чорных дзён
І ў даль ідзём, хоць ляскае
Зьвяр'ё ў кутох няласкаю—
На дальшы кліча сон.

Але, але ня выламе
Ні клыкамі, ні віламі
Таго, што ажыло,
Што ўскрэсла над магіламі,
Над хатамі пахілымі—
Мінуламу на зло.

Ня ўзяць рукамі голымі
Таго жывога полымя,
Што нібы агняцьвет,
Вясёлымі саколамі
Над горамі, над доламі
Разносіць іскры ў сьвет...

. . . . . . . . . . . . . . . .

А гоні ўжо узораны,
І сілы распакораны
Ад паншчынных бядот
Чакаюць стравы жораны—
Зярнятаў не заморaных,
Чакаюць на ўмалот.

А лапці і анучыны
Адбэрсаны, адкручаны,
Нуда маўчыць ціхом;
Спраўляюцца заручыны
Вясельніцы засмучанай
З вясёлым жаніхом.

Лявоніха... мяцеліца...
Бяз памяці вяселяцца...
— Гэй, дзьмі ў дуду дудар!
Аколіца-аселіца
Пад ногі сонцам сьцелецца...
Збудзіўся гаспадар!..

6

..І пайшла, і пайшла—
Як-бы хто набаяў—
Ад сяла да сяла
Гутарка такая:

Беларусь на куце
Ў хаце сваёй села,—
Чарка мёду ў руцэ,
Пазірае сьмела.

Сядзіць важна, сама
Сабе гаспадыня,
І прыбрана яна—
Ніхто не закіне:

На галоўцы вянок
З сініх васілёчкаў,
А чырвон паясок
Стан абвіў дзявочы.

Так сядзіць і глядзіць,
Ці усё, як трэба,—
Трэба ўсім дагадзіць
І соляй і хлебам.

А з тутэйшых музык
Гучная капэля,
Хто ў дуду, хто пад смык,
Граюць ёй вясельле.

Так бубняць і гудзяць
На гэтай бяседзе,
А суседзі глядзяць,
Дзівяцца суседзі:

— То-ж яна з мужыкоў,
А як вышла ў людзі!
Як міне больш гадкоў,
Што-ж тады ўжо будзе?!.

7

Зручна, гучна грай нам, грайка,
Ад усіх рэж струн!
Ня сьвісьціць ужо нагайка,
Ня гудзіць бізун.

Селі макам усе тыя,
Што нас, вольны люд,
Не шкадуючы памыяў
Аблівалі тут.

Барын веку дажывае,
Выгнаны Масквой,
Пан Варшаву прапівае,
Гонар панскі свой.

А мы самі, сабе самі
Ўжо гаспадары,
Малатамі і сярпамі
Звонім да зары.

Нібы пчолы ў соты з мёдам
Да свайго вульля,
Мы вяртаемся да дому,
Як адна сям'я.

На сход сходзімся і лічым,
Ці усе прышлі,—
Хто спазьніўся—прыйсьці клічам
Да сваёй зямлі.

—Вы, хтось кажа асьцярожна,—
Ня ўсе ў грамадзе...
—Гэй, дарогу, лях вяльможны!
Беларусь ідзе.

Грай-жа, грай нам гулка, грайка,
Ад усіх рэж струн!
Ня сьвісьціць ужо нагайка,
Ня гудзіць бізун.

8

Газ. «Сав. Беларусь» у дзень выхаду яе 1000-га нумару.

Трэба далей славу, што ўжо тысяч
Раз вы слаўна баранілі,
Сьветазарнымі агнямі вышыць,
Каб ня шчэзла ў векаў пыле.

Бо цікуе злосны вораг
Тых, што спыняцца ня ў часе
У сваім паходзе ў зорах
І задрэмлюць на папасе.

*

Трэба біць, у молатаў біць тысяч,
Пакуль сталь яшчэ ня ўстыла,
Каб ня ўздумаў ў гэты час лясны сыч
Засьмяяцца з вольных сілаў.

Бо цікуе злосны вораг
Тых, што спыняцца ня ў часе
У сваім паходзе ў зорах
І задрэмлюць на папасе.

*

Трэба многа, яшчэ многа тысяч
Рук завабіць, рук спагадных,
Каб да сонца з сонца сьцежку высеч
І спачыць у снах прынадных.

Бо цікуе злосны вораг
Тых, што спыняцца ня ў часе
У сваім паходзе ў зорах
І задрэмлюць на папасе.

*

Трэба, трэба дзён нямала тысяч
З беларускім сэрцам, думай
Мерыць сьветы, каб вышэй узвысіць
Вызваленьне наша з глуму.

Бо цікуе злосны вораг
Тых, што спыняцца ня ў часе
У сваім паходзе ў зорах
І задрэмлюць на папасе.

## 9

Яшчэ ня ўся работа зроблена,
Ня ўсё жніво у нас пажата,—
Яшчэ краіны стан пагорблены,
Як быў, застаўся ён гарбатым.

Яшчэ дзесь здрадна ласка панская
На беларускім едзе карку
І круціць з подласьцю паганскаю
На свой лад нашу гаспадарку.

Яшчэ там сыты гонар ласуе
Дзявочу ўсьмешку беларускі,
Даляры лічачы за касаю,
Што з нашых зьдзёр палосак вузкіх.

Яшчэ там корна служаць мамкамі
Сястрыцы нашы і сягоньня,
Ды стогнуць, мучацца пад клямкамі
Браты, як некалі ў прыгоне.

Яшчэ ўспалаюць там паднебныя
Чырвоным полымем пажары,
І будуць гінуць там патрэбныя
І непатрэбныя ахвяры.

## 10

Пакінем спадчыну мы для патомкаў
Інакшую ад тэй,
Што ўзялі мы ад продкаў на абломках
Гісторыі сваей.

З інакшай думкай пойдзе ў сьвет і людзі
Патомак гэны наш:.
Згібацца ўжо ня будзе, і ня будзе
Піць з недапітых чаш.

Даставі сьцежкі, ад якіх прапасьці
Маглі мы ў бяспуцьці,
А кінем бітыя шляхі да шчасьця,
Абы умець ісьці.

На продкаў плечах паўзрасталі вежы,
Дзе торг вялі за нас,
А мы патомкам нашым кінем межы
Без ашуканскіх крас.

Яшчэ пакінулі нам асьляпленьне,
Пашану да пакут,
А мы пакінем песьню вызваленьня
І вольны бацькаў кут.

## АРЛЯНЯТАМ

### 1

Гэй, узьвейце сваім крыльлем,
Арляняты, буйна, бурна,
На мінулых дзён магіле,
Над санлівасьцю хаўтурнай!..

У маланках пяруновых,
З гулкім гоманам грымотаў
Для вякоў дыхтуйце новых
Нячувалыя ясноты.

Вам сярпы і косы ў рукі
Ды мячы, каваны з сталі,
Далі буры, завірухі,
Што тут вылі, бушавалі.

Цень мінуўшчыны праклятай,
Дзе бізун гуляў з нагайкай,
Зьмяціцё вы, арляняты,
Сваёй новай сілай, байкай.

Ужо выбіла часіна
На вялікую прыгоду
Выйсьці з мутнай каляіны
Беларускаму народу.

Ў чарадзейным карагодзе,
Ў небасяжнае свабодзе,
Без аковаў, на прывольлі
Ўжо віхрыцца наша доля.

2

Вам на памяць Серп і Молат
    Даравала доля,
Каб з вас кожны быў, як волат,
    Ня гнуў плеч ніколі.

Каб здабытую свабоду
    Зналі, шанавалі,
І у цяжкую прыгоду
    Ўсталі грознай хваляй.

Зашумелі, загудзелі,
    Як віхор сусьветны,
Не праспалі у пасьцелі
    Волі агняцьветнай.

*

Вам дасталіся ад продкаў
    Сохі і бароны,
Каб вы ў час, пасьля паводкаў,
    Вышлі на загоны.

І з'аралі сваю ніву
    Шырока, глыбока,
Зерне ўкінулі шчасьліва,
    Чыстае, як вока.

Каб рунела зерне тое
    Весела, яскрава
Побач з вашай маладою
    Сакалінай славай.

*

Вам пакінулі прадзеды
Гартаваны косы,
Каб вы з імі сонца сьледам
Вышлі на пакосы;

Каб касілі да упаду
Пустацьвет і зельле,
Што сваім пякучым ядам
Труціць кроў у целе.

Каб зьвінелі вашы косы
Над зямлёю соннай
Ад начных да раньніх росаў,
Звонка, векапомна.

*

Вам у спадчыне ад роду
Засталіся песьні,
Каб быць вашай асалодай
У жыцьця прадвесьні.

Каб вы пелі, ня сьціхалі
Ў радасьці і ў горы,
Гаманілі, нібы хвалі
У бурлівым моры.

Каб шоў гоман няспыняны
Ад поля да поля
І людзей, яшчэ скаваных,
Заклікаў на волю.

## Б'ЮЦЬ НА ТРЫВОГУ ЗВАНЫ...

Б'юць на трывогу званы,
Клічуць да новай вясны,
К Новаму богу завуць,
Б'юць на трывогу званы,
Б'юць, б'юць!..

Час ужо браць тапары,
Косы кляпаць да зары,
Покі ў грудзях жар ня згас,
Час ужо браць тапары,
Час, час!..

Рэж на дарозе дзярно,
Што ногі раніць даўно,
Ў глыб запускай свой лямеш,
Рэж на дарозе дзярно,
Рэж, рэж!..

Крыж прад вачамі стаіць,
Крыж абвіла помсты ніць,
Процьма удоўжкі і ўзвыш,
Крыж прад вачамі стаіць,
Крыж, крыж!...

Рвуць твае жылы кругом,
Родны раскідалі дом,
Гібель табе скрозь равуць,
Рвуць твае жылы кругом,
Рвуць, рвуць!..

А на трывогу званы
Б'юць на парозе вясны,
К Новаму богу завуць,
Б'юць на трывогу званы,
Б'юць, б'юць!..

## З ПАВЯЎШАЙ СЛАВЫ...

З павяўшай славы быўшых дзён,
З магільных прадзедавых крас,
Пад стогн няволі, путаў звон,
Мы зложым песьню, зложым сказ,
А так агністы, як пажар,
А громкі так, як грому ўдар.

І так, каб чуў і брат і кат
З нізін-далін, з высокіх гор,
Ад меж да меж, ад хат да хат
Зайграем сьвету ў дружны хор
З жыцьцём у тон, з віхрамі ў тон,
Пра свой папас, пра свой палон.

Хай тое ўсё, што спала ў сьне,
Паўстане яваю жывой
І сьветам блудным здрыгане,
І панясе скрозь сьветач свой,
Ад краю ў край, між сьпячых сіл,
Аж там—да бацькаўскіх магіл!.

## ПАЗВАЛІ ВАС...

Эўропэйскія дзяржавы пастанавілі запрасіць на міжнародную нараду ў Гэнуую т. Леніна *(З газэт 1921 г.).*

Пазвалі вас на пір піроў,
Пазвалі вас за волю стаць
І далі ўладу путы рваць,
І далі ўладу біць цароў,—
Зрабілі з вас гаспадароў.

І вы з рабоў пайшлі ў цары...
—О, каб ня ў краты толькі з крат!?
Паклон аддаў вам азіят,
За ім Эўропы жыхары
Шлі к вам праз морскія віры...

Але ня ваш вітаць шлі сьцяг:
З сваёю воляй шлі на вас...
І не дайшлі—зышлі на час
Праз белы й чорны морскі шлях.
А вам ня страх, а вам ня страх...

Чатыры годы крок у крок
Тварыць вы шлі і кроў лілі
Сваю, чужую па зямлі...
Расьлі магілы... зваў прарок...
Рос вашай моцы блеск і мрок.

І ўсё вы ўзялі, ўсё, як ёсьць:
Фабрычны дым, сяўбы загон
І панскі двор і царскі трон...
Дый стала ўсё вам гэта ў злосьць—
У хлебе восьць, у горле косьць.

Сабою самі ўстаць з руін
Вам не хапіла смагі, сіл,
І вось к вам вылез цень з магіл:
Крывавы грош і «гаспадзін»,
А іх закон адзін, адзін.

З-пад ног, з утоптанай нары
Паўзе ўжо збэшчаны павук
І ў сто, у сто кагцістых рук
Хапае вас, рабы-цары,—
Як-бы ўжо вы не ўладары...

√ Вы ўладары... Яшчэ жар-цьвет
Бунтарскіх дум у вас ня згас:
Эўропа кліча ў госьці вас:
Пад рогат Пірравых пабед
Саветы кліча на «савет».

## ЦІШКУ ГАРТНАМУ

У пятнаццатую гадавіну яго шчырай пясьнярскай працы на карысьць Беларускага працоў-нага люду.

Многа поля з добрай доляй,
Нешчасьліва і шчасьліва,
Праляцеў ты, мой саколе,
Па-над роднай нашай нівай.

У сьвітаньне, у прадвесьне,
З непамернай гордай сілай
Пела бура табе песьні,
Думкі бурныя будзіла.

І мацнелі твае крыльлі,
І мацнеў дух неўгамонны,
А вясёлкі шлях сачылі,
А маланкі слалі ўклоны.

Яснай зоркай з-пад аблокаў
Азіраеш пуцявіну,
Па якой ты ненарокам
Мкнуўся к сонцу бяз упыну.

Нікнуць чары ў пору гэту,
З воч спадае асьляпленьне,
І законы піша сьвету
Людзкай праўды вызваленьне.

Гэй, ляці, саколе, далей
Па-над буйнай Беларусяй!
Ня спыняйся ў векаў далі
І ня гніся, як ня гнуўся.

## НА СЬМЕРЦЬ СЬЦЯПАНА БУЛАТА

Задрамаў ты з доляй, з хвалай,
Жвір халодны прыгаруніў...
Ой, скасіла ня спытала!..
— Сьні, таварыш, аб Комуне!

Ты хапаў за косы сонца,
Думаў думку аб пяруне,
Што дух збудзе ўсёй старонцы...
— Сьні, таварыш, аб Комуне!

Як сіроты, забытымі
Цэп з касой вісяць у пуні,—
Хто-ж на ворага іх здыме?!
— Сьні, таварыш, аб Комуне!

Сьвет узьняўся, схамянуўся...
Вер, свабодны вецер дуне
І над беднай Беларусяй!..
— Сьні, таварыш, аб Комуне!

Забуяе ў славе буйнай,
Зазьвініць залатаструньне
Родны Край аднэй комунай...
— Сьні, таварыш, аб Комуне!

На магілцы-валатоўцы
Зарунеюць кветак руні;
Зайдзе сонца, ўзыйдзе сонца...
— Сьні, таварыш, аб Комуне!

## АДШЧАПЕНЦАМ (ЗАХОДНІМ)

Адкуль і хто яны, адменцы?
Няма у кнігах роду іх;
Імя іх толькі—адшчапенцы,
А гэта ведама й бяз кніг.

Узялі крыўдай уладаньне
Над братам бедным і сьляпым
І распасьцерлі панаваньне
Ў чужым дабры, як у сваім.

Народ ім хорамы паставіў,
Ральлю капаў для іх, як крот,
Яны-ж чужой прадалі славе
Сваю зямлю і свой народ.

У звоне золата ўтапілі
Трухлявы душ сваіх абраз
І на прадзедавай магіле
Спраўляюць радасны папас.

Гадуюць думы, думы ката
Крывёй другіх на ногі ўстаць
І на плячох скаваных брата
Сваю «ойчызну» будаваць.

√Забылі ўсё за катнім дзелам,
Сваіх счураліся людзей,
Што корм давалі сваім целам,
Чыю смакталі кроў з грудзей.

З пянчанай пугай на адводзе,
На лбе з пячаткаю сьвятой,
Ў чужым распасьвены гародзе,
Яшчэ гарод паганяць той.

Законы топчучы сьвятыя,
Стварыў якія чалавек,
Свае распасьвеныя шыі
Ў ярмо нясуць на сьмех і зьдзек.

Жывуць, брыдуць а дзе—ня знаюць
Сягоньня іх начлег, папас,
Адно—народ з пуцьця зьбіваюць
І ў процьму гоняць кожны час.

Дакуль-жа будзе іхня сіла
Трымаць над намі свой прыгон?
Калі у Бацькаўшчыне мілай
Загосьціць праведны закон?

Дакуль іх будзе панаваньне,
А рабства нашае трываць
І аднімаць у нас прыстаньне
І путы вечныя каваць?

√Калі ударыць на трывогу
Гарт нашых сілаў маладых
І адшчапенцам дасьць дарогу,
Якая жджэ даўно на іх?

Хай пранясецца кліч да славы,
Пакліча к іншаму жыцьцю!
Хай помста точыць нож крывавы
На крыўду вечную сваю!

## ВАЯК.

Сеў ваяк на каня,
Ў рукі ўзяў востры меч
І пусьціўся да дня
Пашукаць, каго сеч.

Не малы ехаў час,—
Ня сустрэўся нідзе,
Аж напроці якраз
Вораг войска вядзе.

У яго старану
Гмін вядзе на грабеж;
Перайшлі баразну—
Пагранічны рубеж.

Схамянуўся ваяк,
Кроў зайграла ў грудзёх;
Сьціснуў меч у руках,
Конь памчаў з усіх ног.

Наляцеў, як пярун,
На разбойніцкі зброд;
Запусьціў меч-кладун,—
Сьцеражыся, народ!

Б‘е агонь з дзяцюка,
Косіць голавы з плеч,
Ня здрыгнецца рука,
Ня тупеецца меч.

Тысячу ўжо лягло,
Ўжо другую сячэ,
А праціўнік на зло
Войска больш валачэ.

Гэй, трымайся, дружок!
Ня дрыгні ў барацьбе:
Жджэ пахвалы вянок,
Жджэ дзяўчына цябе!

На бяду захацеў
Дзеўку ўспомніць ваяк,
Меч з рукі паляцеў,
Сам зваліўся наўзнак.

Рухнуў побач і конь—
Разам жыў, разам лёг;
Неба ясная тонь
Свой паслала палог.

Сьпіць ваяк з доляй сам,
Над ім птушка пяе,
А дзяўчыне няўцям,
Што памёр праз яе.

## А Ў БАРЫ, БАРЫ...

*З народнага.*

А ў бары, бары
Тры дарожанькі.
Гэй, гэй, гэй, тры дарожанькі!
Тудой шоў жаўнер
Наш прыгожанькі.
Гэй, гэй, гэй, наш прыгожанькі!

*

Стаў, глядзіць жаўнер,
Сумняваецца.
Гэй, гэй, гэй, сумняваецца!
Па якой пайсьці,
Надумляецца.
Гэй, гэй, гэй, надумляецца!

*

Па аднэй пайсьці—
Не пашэнціцца.
Гэй, гэй, гэй, не пашэнціцца!
Завядзе на ўсход,
Скуль ня вернецца.
Гэй, гэй, гэй, скуль ня вернецца!

*

Па другой пайсьці—
Абняволіцца.
Гэй, гэй, гэй, абняволіцца!
Бо ў заходні бок
Шлях той коціцца.
Гэй, гэй, гэй, шлях той коціцца!

*

Выбіраў жаўнер
Трэцьцю сьцежаньку.
Гэй, гэй, гэй, трэцьцю сьцежаньку!
Бо вяла яна
Ў родну межаньку.
Гэй, гэй, гэй, ў родну межаньку!

*

І запеў жаўнер
Той прыгожанькі.
Гэй, гэй, гэй, той прыгожанькі!
А ў бары, бары
Тры дарожанькі.
Гэй, гэй, гэй, тры дарожанькі!

## ОЙ, ВЯДУ БЯДУ...

*З народнага.*

Ой, вяду бяду, а бяда мяне
Водзіць вечным сьледам;
Гэтак ходзім мы за адным адно,
Як той дзед за дзедам.

Гэй, паклічу сход ды зьбяру народ,
Ды зьбяру жаўнераў,
Хай ідуць вайной на маю бяду—
На ліхога зьвера.

На мой кліч, на сход гмін народу йшло,
Шоў ваяк з ваякам,—
Кожны сьмел, ахвоч, б'е адвага з воч,
Поле ўслалі макам.

Як той лес, жаўнер ля жаўнера стаў,
Зброя ў сонцы йграе;
Зварухнуўся полк, а за ім—другі,
Толькі сьцяг міргае.

Мах за крокам крок! войска йдзе ў паход,
Быццам тая хмура,
Аж дрыжыць зямля, як ваякі йдуць
Ды пяюць, як бура.

Гэй, выходзь, бяда, гэй выходзь, хто нам—
Няпрыяцель-ворагǃ
Пачастуем так, што папомн іш век,
Ды сатром на цорах.

Знай, жаўнеры мы, выйшлі не на жарт
Біцца, ваяваці;
Знай, хавалі нас поле, бор і лог
Беларусі-мацǃ

## КРЫМ

### 1

О, Крым, нязьведаная казка
Жыцьця мінулага вякоў,
Адным якія былі ласкай,
Для іншых—скрогатам акоў!

У шумным пробегу сталецьцяў
Нішто цябе, Крым, не згняло,—
Таксама цягнуць рыбу сеці,
Таксама птушка мкне ў сіло.

Адвечным ладам шуміць мора,
А з ім—магнолія, платан...
Аб чым яны з сабой гавораць,—
Спытайся ночку ды туман!

2

На узьбярэжжы Крымскіх вод
У неба сінь глядзіць Ай-Петры,—
Над ёй аблокаў карагод,
Пад ёй прапасьцістыя нетры.

Глядзіць Ай-Петры ў дол з вышын
На белы хаты, на палацы,
На стужкі каменных пуцін—
Плады нявольніцкае працы.

А я—з далёкіх ніў пясьняр—
Па Гаспры з куту ў кут снуюся,
Гняце мне думкі Крыму чар,
Маркотна мне без Беларусі.

Крым—Гаспра. 16—IX—23 г.

## ЛЯСНОЕ ВОЗЕРА

Дрэмле абсаджана лесам адвечным,
Цінай засланае возера ў лесе;
Шастае сьціха асока і аер,
Нудныя казкі куст з кустам шапоча.

Сосны і вязы, дубы і асіны
Вокала возера вартай пасталі,
Долу ківаюць паклоны нямыя,
Небу малітву таёмную твораць.

Возера! Возера! Йду к табе смутны
Соннаю пушчай, амшалаю сьцежкай,—
Жоўтае лісьце шасьціць пад нагамі,
Шчокі калючка сасновая шчыпе.

Сам з сабой на-сам пад дубам саджуся,—
Вочы і думкі пабеглі далёка...
Сьцішна над возерам, воблачна ў небе...
Недзе запелі Узьвіжаньне гусі.

Акопы. 10—VIII—19 г.

## ВОСЕНЬ

Села пад пушчаю Восень,
Вочы ўтаропіўшы ўдаль;
Жаль ёй павяўшых дакосін,
Сьпетых дажынак ёй жаль.

Пацеры шчыра шапоча,
Нудную шэпча мальбу;
Творыць пацiху уночы
Сьвету сваю варажбу.

Склікала вецер і хмары,
Кожнаму дзела дала:
Вецер завыў на папары,
З хмары павісла імгла.

Вецер, убраўшыся ў сілы,
Лесам, як вехцем, трасе,
Крыж вырывае з магілы,
Круце салому ў страсе.

Хмара, упіўшыся морам,
Хвошча і хвошча даждожом,
Плача нязьмераным горам,
Жаліць душу, як нажом.

Вецер і хмара да хаты
Просяцца, лезуць смалой:
Вецер дзьме ў комін заўзята,
Хмара лье ў вокны залой.

Ў шчылінах сьвіст ня сьціхае,
Муціць, варожыць, кляне,
Як-бы жывы хто ўздыхае
Ў сьлёзнай паўяве, паўсьне.

Мокрыя каплі па шыбах
Плюскаюць, хлюпчуць, бубняць,
Быццам людцоў у сялібах
Мецяць патопай даняць.

—Скуль вы? Што трэба вам, госьці,
Зваў вас які гаспадар?—
З хаты пытаецца хтосьці
Буйнага ветру і хмар.

—Восень сюды вам за кару
Выгнала нас на папас!—
Гэтакі вецер і хмара
Кідаюць хаце адказ.

І ўзноў завыў вецер жудка,
Дождж пачаў сьцёбаць сільней...
А там пад пушчай ціхутка
Моліцца Восень далей.

Зьнізвае пацеры Восень,
Вочы ўтаропіўшы ўдаль;
Жаль ёй павяўшых дакосін,
Сьпетых дажынак ёй жаль.

24—VIII—19 г.

## МАРОЗ

Іду я, сьняжысты, ўсясільны,
Па сьцежках—пуцінах пустых,
І ночкай і днём бязупынна
Пільную абшараў сваіх.

Бязьмежна ўладарна паную
Пад сховаю пушчавых вех,
Каронаю бор мне зялёны,
А тронам-пасадам бел-сьнег.

Палац мой—лес буйны, вяцьвісты—
Ірдзіцца брыльлянтамі скрозь,
Мне воўк і мядзьведзь у паслугах,
Мне служыць вявёрка і лось.

Як пухам, сьняжком пасыпаю
І хвою, і елку, і клён;
Хто ў госьці ка мне забярэцца,
Тулю тых, галублю іх сон.

І казкі шапчу ім аб шчасьці,
І цемру зганяю з вачэй...
Хадзеце, хадзеце к Марозу!
Хадзеце у госьці хутчэй!

## ГРУГАН

Кожнай вясны, як выходжу
Свой засяваці загон,
Чорны груган вылятае
Зьнекуль—з няшчасных старон.

Крыльле, як вехі, разьняўшы,
Страшны затачвае круг;
Крумкае, гракае жудка,
Жудкі сплятае ланцуг.

Сумныя думы абсядуць,
Ног не павырваць з ральлі,
Млее рука, а сявалка
Цісьне і цісьне к зямлі.

Восень як прыдзе і з поля
Выйду зьбіраці сяўбу,—
Гэты-ж груган вылятае,
Гэту-ж вядзе варажбу.

√ Зьвісьне пад хмарамі зданяй,
Воч ня спускае з мяжы,
Косьці пасеены ліча,
Ліча людзей і крыжы.

ляну, і сілы слабеюць,
К думам сьцікаецца жах,
Сьцісьнецца сэрца ад болю,
Ноч замігціць у вачах.

Гэтак вось кожны год, вечна,
Ў поле як толькі іду,
Зьнекуль груган вылятае
І наклікае бяду.

* * *

Вяртаюцца з выраю жоравы, гусі
Да збураных гнёзд на палёх Беларусі;

Як «бежанцы» тыя, ганяны тугою,
Да роднага краю плывуць чарадою.

А думцы маркотна, а думка ня бачыць,
Як птушка і тая айчынай маячыць.

Мкне з выраю птушка, а думка у вырай
Ляцела-б, ляцела, а шчыра, так шчыра!

## ГОЛАД

Праз поле, праз хаты і сёлы,
Ў кароне з касьцей чалавечых,
Іду, разбуялы, вясёлы,
З хатомкай мярцьвячай на плечах.
Паклоны б'е стар мне і молад
І дзетак рой босых і голых,—
Бо Голад я, Голад!

З прадсьмертных сьлязінаў і поту
Брыльлянты на мне мігацяцца,—
Абвёў іх з крыві пазалотай...
А з сілай маёю зраўняцца
Ня ў сілах ні сьпека, ні холад,
А шлях мой бяз рыцьваў і плоту,—
Бо Голад я, Голад!

Іду. Прада мной зазірае
Жывым сьмерць галодная ў вочы
І косе ў рад, не разьбірае—
Ў дні белыя, ў чорныя ночы.
Ці слаб хто, ці дужы, як волат—
Груган яго косьці зьбірае,—
Бо Голад я, Голад!

Іду. А за мной сьледам-лазам
Паўзуць зьністажэньні, руіны.
Я—мору тварэц бязупынны,
Я—сейбіт бязьмежнай заразы,
Мой скіпетр—лядзянячы молат,
Ім рабству дыхтую указы,—
Бо Голад я, Голад!

Пад чорным маім уладаньнем
Сіроцтва гне корна калені,
І ўдоўства галосіць літаньнем
На голым магільным каменьні.
Мне гымны складае вякоў лад—
Мне, сытаму людаў кананьнем,—
Бо Голад я, Голад!

I—X—21 г.

## ХАЎТУРНЫ МАРШ

*З польскага—Корнэль Уейскі.*

Гэтак звоняць! А так звоны
Рвуць мазгі балесьне!
А ксяндзы—куды пруць роем
З груганавай песьняй?
Тут-жа блізка, прада мною
Чорны воз туркоча...
Як мне цёмна! Воз той чорны
Зацямніў мне вочы.

Недзе ў высі крыж ясьнее,
Мігаюць паходні...
А мяне вядуць пад рукі,
Так іду выгодне:
Самі ногі йдуць, здаецца,
Скачанеўшы ногі,
Добра, што вядуць мяне так,—
Ня зблуджу з дарогі.

Так іду, плыву, як сьпячы,
Бяз чуцьця, бяз волі;
Галаву ды сэрца толькі
Страшна мучаць болі.
Капцюры іх рвуць якіясь
Вострыя, крывыя;
А званы тут цягам звоняць,
Вараньнё ўсьцяж вые.

Чую музыку якуюсь,
　　Водгульле нясецца;
Б'е з вачэй жар, а па твары
　　Штось зімное льлецца.
На мяне глядзяць, а блізка
　　Падыйсьці ня сьмеюць;
Мабыць ё ў маім штось твары,
　　Што так страхам веець.

А воз цягне дзьве пар коні
　　У жалобным строю,
А мяне якаясь сіла
　　Цягне за сабою.
Ах, мой божа! Ка мне пхнецца
　　Дамавіна-скрыня!
Там майго загадка быту,
　　Там—у дамавіне.

Зашто так мяне скараў ты,
　　Богам называны?
　　　　Ах, за што, за што?
Уладар зямлі і неба,
　　Сонцаў і курганаў,
　　　　Згнёў мяне ў нішто?!
　　　　　Дзе той бог,
　　　　　Што так змог?

Ці яго звон гэты весьціць
　　І той крык варон?

Хай тут стане прада мною
У постаці сьмяячай,
Ён страшней за ўсё!..
Бо вялікшы я цярпеньнем—
Хоць нішто ня значу—
Чымся моц яго!
Ой, злы ён!
Ой, злы ён!

Гэтым словам б'е звон, вые...
Як вароны тыя!
Як-жа мучыць гэты звон,
Гэты звон! звон!

---

На атласе заламала
Ручанькі на крыж,
Усьміхаецца спрасоньня...
Ах, ты ўжо ня сьніш!

Ня ўздыхнеш па белых рожах
На вянку ў жальбе,
Пацалункамі ў галоўку
Ня збуджу цябе.

Не глядзіш, што за табою
Йду я—труп бляды,
Што вяду туды з жалобай,
Скуль ня прыдзеш ты.

Ці-ж на то хавала маці
Не адну вясну
І кахаў я да астатку,
Каб клаў у труну?

Вось якое мне вясельле?!
І я ў гэткі дзень
Жыці мушу?—Божа! божа!
Што пачну я, цень?

*

Дабраты была анельскай,
А любіла як!..
Быццам песьняй, быццам казкай,
Дні плылі нам так.

І пры ёй ня знаў я грэху,—
Дабрату я знаў,
Бо з яе вачэй і ўсьмешкі
Бласлаўленьне браў.

Для мяне была скарбніцай
Творчых дум і цнот,
Вёў мяне яе стан гібкі
Да сьвятых яснот.

Дзе-ж мяне завёў урэшце,
Посьле цяжкіх спроб?
К апраметнай шоў я ў сонцы,
Праз надзею—ў гроб!

Вось якое мне вясельле?!
І я ў гэткі дзень
Жыці мушу?—Божа! божа!
Што пачну я, цень?

---

Паднялі труну на плечы,
Панясьлі пасьпешна;
Мяне ўдзержыць хочуць сілай—
Ха, ха! вот пацешна!
Проч з дарогі, разявякі,
З хлысьцьбаю дасужай!
Бо я молад і сярдзіты,
А кулак мой дужы...

Я адзін к ёй маю права,
А вы проч, насланьне!
Чорны збродзе! толькі роўны
Хай да бойкі стане.
З вас ніхто майго цярпеньня
У грудзёх ня зьмесьце!..
І ўцяклі ўсе,—сам іду я,
Грозны цар балесьці!

Сярод гоману і звону
Ўсіх званоў бяз ладу,
Сам іду я к дамавіне —
Да свайго пасаду.
Ты, грабар, на гэтым насьпе
Ўсьпёрты на лапаце,
За дол для цара такога,
Колькі хочаш, браце?

А капай мне дол глыбока,
Бо сьвет мне—горш нетраў;
Ад тваёй цяжэй зямлі тут
Гнець мяне паветра.
Проч з крапілам! і сьвятая
Яе капля спляме:
Я адзін тут маю права—
Пакраплю сьлязамі.

Здань-рука ка мне вылазе
З-пад манашых полаў,
Ясна-моцная такая!
Дух гняце мой кволы.
І мяне яна кранула!
Пахіліўся, ўпаў я...
І ўзялі мяне й панесьлі,
А куды—ня знаю.

Ах, за колькі капляў шчасьця
Плацяць людзі сьвету
Цэлым морам сьлёз!
Ой, дурны сьвет, і на што ты
Створаны ў цьму гэту?
Дзе твой скон? дзе ўзрос?
Яго рух,—
То-ж мой дух!

Я-ж—як сэрца, што ў ім б'ецца,
Ён—пусты, як звон!
Ці каго аб тым прасіў я?
Без маёй хто волі
Мне сказаў прыйсьці?
Хоць-бы там мяне схавалі—
Не сяджу ў няволі:
Маю моц пайсьці
Ой, злы ён!
Ой, злы ён!

Гэтым словам б'е звон, вые...
Як вароны тыя!
Як-жа мучыць гэты звон,
Гэты звон! звон!

## ПЕСЬНЯ І КАЗКА

Песьня і казка
Ходзяць у пары,
Сеюць па сьвеце
Дзівы і чары.

Будзяць спрасоньня
Думкі дзіцячы,
Як той ураньні
Промень сьвяцячы.

*

Песьня і казка,
Як у крышталі,
Сьвету пакажуць
Тайныя далі.

Шляхі намецяць
К сонцу і зорам
Для людзкай долі,
Скованай горам.

*

Песьня і казка
Ў райскіх праявах
Шчасьце збудуюць
З кветак яскравых.

Сэрца атуляць
Вечнаю ласкай...
Слухай-жа, сэрца,
Песьняў і казкаў.

## БАЙ

Бегаў бай па сьцяне
У чырвоным каптане,
Байку баіў. Ой, лю-лі!
Жылі пчолкі у вульлі...
Баіць ці не?
— Баіць!

Бегаў бай па сьцяне...
Шла вясна па вясьне,
Жылі пчолкі з году ў год,
Бралі ў соты з кветак мёд...
Баіць ці не?
— Баіць!

Бегаў бай па сьцяне...
Ніхто пчолак не кране;
Самі мёд зьбіраюць той,
Самі ласваюць зімой...
Баіць ці не?
— Баіць!

Бегаў бай па сьцяне...
У тэй самай старане
Пустапасам труцень жыў,
Неяк з пчолкамі здружыў...
Баіць ці не?
— Баіць!

Бегаў бай па сьцяне...
Труцень кажа: «Дайце мне
Глянуць, пчолкі, у вульлёк,
Паспытаці ваш мядок!»...
  Баіць ці не?
    — Баіць!

Бегаў бай па сьцяне...
Ці так добра, ці так не,—
Пчолкі добрымі былі,
Трутня ў госьці прынялі...
  Баіць ці не?
    — Баіць!

Бегаў бай па сьцяне...
Труцень пальцам ня кіўне;
Пчолкі мёд нясуць да сот,
Труцень есьць ды есьць той мёд...
  Баіць ці не?
    — Не!

Менск, 6—III—21 г.

## А ЗЯЗЮЛЬКА КУКАВАЛА...

Як на сьвет радзіўся Янка,
Як заплакаў многа-мала,—
Пела маці над калыскай,
А зязюлька кукавала:
  Ку-ку, ку-ку, кінь дакуку!
  Сьпі, сакалік! ку-ку, ку-ку!

Як падрос, падняўся Янка,
Як ганяць стаў ў поле стала,—
На жалейцы граў дзень цэлы,
А зязюлька кукавала:
  Ку-ку, ку-ку, кінь дакуку!
  Пасі статак! ку-ку, ку-ку!

Як вялікім вырас Янка,
Як стаў сеяць шчыра, дбала,—
За сяўбою пеў аб долі,
А зязюлька кукавала:
  Ку-ку, ку-ку, кінь дакуку!
  Сей палетак! ку-ку, ку-ку!

Як ні сеяў пільна Янка,—
Ўсё чагосьці не ставала:
Янка сеяў—людзі жалі,
А зязюлька кукавала:
  Ку-ку, ку-ку, кінь дакуку!
  Жаці будзеш, ку-ку, ку-ку!

Як старым-старым стаў Янка,
Як пазбыўся сілы ўдалай,—
Баіў байкі-казкі ўнукам,
А зязюлька кукавала:
  Ку-ку, ку-ку! кінь дакуку!
  Годзі баіць! ку-ку, ку-ку!

Як хавалі людзі Янку,—
Галасілі многа-мала:
— А на што-ж памёр ты, сейбіт!..
А зязюлька кукавала:
  Ку-ку, ку-ку! кінь дакуку!
  Сьпі, саколік! ку-ку, ку-ку!

Акопы, 8/IX—21 г.

## СЫН і МАЦІ

### СЫН

— Мамка, мамка, нам сягоньня
Гаманілі ў школе
Аб якойсьці Беларусі,
Што жыве на волі.
Хоць я слухаў вельмі шчыра
(Ня люблю іначай),
Ды ніяк ня мог уцяміць,
Што ўсё гэта знача.

### МАЦІ

— А вось тое, мае дзеткі,
Глянь-зірні наўкола:
Бачыш гэтыя сялібы,
Хаткі нашых сёлаў;
Гэта поле—шнур ля шнура—
Ўзгоркі і лагчынкі,
На узьмежку грушу-дзічку,
Крыж каля пуцінкі?
Бачыш логі, сенажаці,
А на іх—крыніцы,
Далей—бор зялёны, гонкі,
Што у высь глядзіцца?
А там далей, дзе ўжо вока
Дасягнуць ня можа,
Тое самае пабачыш,
А ўсё так прыгожа!

Сотні вёсак і мстэчак,
Гарадоў нямала,
Рэк бурлівых, пушч гамонкіх
З неапетай хвалай.
Там плывуць Дняпро і Сожа
Ды Дзьвіна і Нёман,
Белавежы, Налібокаў
Там чуваці гоман.
Гарады там Менск і Вільня,
Магілёў, Гародня
І Смаленск з сьцяной цаглянай
Разьляглі выгодне.
Аб вялікай нашай славе
Сьведчаць на сьвет цэлы,
Як жылі мы, панавалі
Ў родным краі сьмела.
Во ўсё гэта, мае дзеткі,
Ад межаў да межаў
Беларусяю завецца
Й да цябе належа.

СЫН

— А! Ўжо сьцяміў! Дык багат я,
Меўшы столькі цудаў:
Гэткім чынам я ніколі
Служкаю ня буду.
Ну, а йшчэ скажы мне, мамка,
Бо я не разважыў:
Што такое беларусы,
Як настаўнік кажа?

МАЦІ

— Ах, які ты йшчэ дурненькі,
Каб ня скеміць гэта!
Ну, паслухай: усе людзі,
Што ад лета ў лета,
Ад пакон вякоў жылі тут
І жывуць сягоньня,
Носяць сьвіткі, носяць лапці
Ды былі ў прыгоне,
Ўсе—і ты, і я, суседзі,
Хто, патвойму, прусы?
Дык-жа ўцям: на Беларусі
Жывуць беларусы!
Ды яшчэ, каб лепей ведаў,
Мушу табе ўспомніць:
Беларусы беларускай
Гутаркай гамоняць.

СЫН

— Вось яно што! Праўда, мамка,
Ўжо сабе ўтлумачыў:
Беларус я! Ох, дам пытлю,
Хто скажа інача́й.
Ну, але яшчэ ня ўсё тут
Ясным мне здаецца:
Што такое беларускай
Гутаркай завецца?

М А Ц І

— Ой, дурненькая варона,
Што з табой чыніці!
Як-жа йначай беларусы
Могуць гаманіці?
Як-жа мы з табой гуторым
Вось у гэту хвілю?
Як-жа я пяю над зыбкай
Для малой Марылі?
Ды паслухай, як на вёсцы
Кажа дзядзька, цётка;
Як пяюць улетку жнеі
За сваёй работкай;
Як бабуля баіць казкі
Аб нядолі-долі;
Як начлежнікі сьпяваюць
На начлезе ў полі?!

С Ы Н

— Ну, ўжо знаю, знаю, мамка!
Як у люстры бачу.
Пакажу я ўсяму сьвету,
Хто я ды й што значу!

Менск, 2|VI—21 г.

## НАД КАЛЫСКАЙ

Калыхала маці сына
У калысцы у ліповай
І пяяла яму песьню
Вось як тутка, слова ў слова:

Люлі, люлі, мой маленькі!
Сьпі і сьні вясёлкі-гулі,
Як-жа вырасьцеш вялікім,—
Не забудзься ты матулі.

Люлі, люлі, мой маленькі!
Сьпі, злажыўшы ў крыж далонкі,
Як-жа вырасьцеш вялікім,—
Не забудзься ты старонкі.

Люлі, люлі, мой маленькі!
Сьпі, як кветка на прадвесьні,
Як-жа вырасьцеш вялікім,—
Не забудзься гэтай песьні.

Люлі, люлі, мой маленькі!
Набірайся моцы, сілы,
Як-жа вырасьцеш вялікім,—
Не забудзь маёй магілы.

Люлі, люлі, мой маленькі!..

. . . . . . . . . . . . . . .

Сын павырас, на лес гледзя,
А ці помніць песьню маткі,—
Запытайся у суседзяў.

## КАРОЛЬ

Я кароль над каралямі,
Пан я над панамі!
Што мне значаць і цары ўсе,—
Пасудзеце самі.

Тругу-гугу! тругу-гугу!—
Дзьму я ў рог вайсковы:
Гэта знак даю падданым
З трубы берастовай.

Лясь-лясь! лясь-лясь!—зброяй лясну
Ўправа, ўлева громка:
Гэта страшу я падданых
Пугай доўгай, ёмкай.

І сабраў сваіх падданых
І павёў, павёў я
Цераз горы, цераз долы,
За гай, за дуброўе.

Тругу-гугу! тругу-гугу!—
Зноў трублю сярдзіта;
Лясь-лясь! лясь-лясь!—сьвішчу зброяй
Грозна, санавіта.

І усеўся я на троне—
На карчы яловым,
А падданыя падданяць,
Ня буркнуць ні слова.

Толькі—скуб-скуб! скуб-скуб! траўку
Згодна ды пакорна,
Ажно рэха ад скубаньня
Коціцца прасторна.

Толькі часам мму-у! мму-у!—
Замычыць цялётка;
Бэ-э, мэ-э! бэ-э, мэ-э!
Забляе ягнётка.

Рох-рох, цох-цох! кві-кві, кві-кві!—
Пісьне парасётка,
Ды гі-гі-гі!—адыйржэцца
Недзе жарабётка.

А я важна, а я пышна
Сяджу на пасадзе,
На падданых пазіраю,
Як дзе на парадзе.

Сонца косы млоснай сьпекай
Сьцелюцца на полі,
А ў дуброве штось шапоча
Ліст з лістком паволі.

Куку-куку! куку-куку!—
Кукуе зязюля
Піць-піць! піць-піць!—каня кліча,
Як-бы посьле гуляў.

Ву-ву! ву-ву!—загудзеў жук
Каля вуха сьмела;
Ззын-ззын! ззын-ззын!—з мёдам з кветкі
Пчолка зазьвінела.

Сэрца мне затрапятала,
І я бяз прынукі—
Шась трубу сваю на плечы
Ды жалейку ў рукі!

Туль-туль-лілі! туль-туль-лілі!—
Граю, не зважаю;
Туля-ляля! туля-ляля!—
Птушкам падцінаю.

Гуля-ляля! Не кароль-жа
Я над каралямі?—
Я, мой статак, сонца, поле!..
Пасудзеце самі!

## ДЗЕД і БАБА

*З польскага—Я. Крашэўскі*

Быў сабе дзед і баба
Ўжо старыя абое;
Яна меласся слаба,
Ён сагнуўся удвое.

Жылі ў хатцы збуцьвелай,
Непачэснай з паглёду;
Адну шыбіну мела,
Адны дзьверцы для ўходу.

Жылі згодна, шчасьліва,—
Як ня жыці нам гэтак!
А чаму?—няма дзіва:
Бо прывыклі к сабе так.

Толькі сумна было ім,
Што памерці ўсё-ж мелі
Што халодным спакоем
Іх магіла разьдзеліць.

Дык маліліся ў згодзе,
Каб за божым прыказам,
Калі сьмерць к ім надойдзе,
Абаіх брала разам.

Але так быць ня можа!
Хтось ды ўперад сканае...
— Каб ня ён, мой нябожа...
— Каб хаця не «старая»...

Гэтак баба маяча:
— Што-дзень чуць валачуся,
Па мне «ваша» заплача—
З ног я ўперад звалюся.

— Ўперад я, мая міла,—
Дзед бабулі гавора:
— Немагота ў магілу
Мяне ўгоне ўжо скора.

— Мяне ўперад—кажу я!
— Вота-ж гэтак ня будзе!
— Вашаць хай пабядуе!
— А ты што?—ці ня людзі?..

І так далей і далей
Пашлі ў спрэчку самдзеле;
Той таму прытыкалі,
Ісьці ў прочкі хацелі.

Ажно стук нехта ў дзьверы.
— Хто там?—Тут ім на тое:
— Я—сьмерць; даўшы вам веры,
Ўзяць іду вас абое.

Дзед сваёй іківае:
— Адчыні ідзі, баба!
— Не магу,—кажа тая,—
Вельмі чуюся слаба.

От лепш ты патурбуйся
За мяне ўжо сягоньня.
— Не, лепш ты йдзі, Кастуся,
Дзед зноў бабе гамоне.

Баба сюд-туд ды жвава
Чмых за печку бяз мукі...
Дзед зашыўся пад лаву...
А сьмерць стукі ды стукі.

І так стукала-б доўга,
Лет чакала-б са дзьвесьце,
Каб праз комін дарогу
Не нашла к ім нарэшце.

## ПОЭТА і ЦЭНЗОР

*Крыху баляда*

Пасьвячаецца быўшым, цяперашнім і маючым быць цэнзорам.

Цяпер, ці калісьці—ня ўцямлю,
А толькі ня лгу ні на міг,—
Поэты пісалі поэмы,
А цэнзоры рэзалі іх.

Поэмы (ужо-ж не поэтаў)
Сек цэнзор, як вецьце пастух,
Аж трэскі-паперкі ляцелі
У чыстае поле, як пух.

І доўга цягнулася гэта,
Як баіць народная весьць,
На згубу бунтарскіх поэтаў,
На цэнзорскі гонар і чэсьць.

І шлі так гады за гадамі
Пад воклікі чорных імшоў,
Ішоў за поэтам поэта,
За цэнзорам цэнзор ішоў.

І трэба-ж,—о, дзівы! о, цуды!
О, слаўны дваццаты наш век!
Поэта прыдумаў поэму,
А цэнзор яе не пасек.

А толькі... Паслухайце толькі,
Што з гэтага далей было:
Вы ўбачыце, людзі, як гэта
Ў дабры часам гнезьдзіцца зло.

Поэта пад потам крывавым,
Ня сплючы сто ночак падрад,
Поэму згарусьціў, аж міла,
І цэнзору даў на прагляд.

А цэнзор меў добрае сэрца,
Што рэдка у нашым вяку,—
Поэмы ня сек і ня рэзаў,
А толькі... *пагладзіў* крыху.

ПОЭТА *пісаў:*

О, віхры, о вы, буралёмы,
Свабодных нябёс жыхары!
Дрыгнеце разбэшчаным сьветам,
Збурэце парадак стары!

А ЦЭНЗОР *пагладзіў:*

О, ветры, зэфіркі любыя,
Свабодных нябёс жыхары!
Галубце вы сьвет наш набожны,
Шануйце парадак стары!

ПОЭТА *пісаў:*

Звалеце кароны і троны,—
Ўжо досьць каралёў і цароў!
Хай будзе народа ўладарства
І панства зямлі жыхароў!

А ЦЭНЗОР *пагладзіў:*

Шануйце кароны і троны...
О, чэсьць каралём і царом!
Патрэбна народу прынука,
Патрэбны бізун жыхаром!

ПОЭТА *пісаў:*

Ўжо досыць прыгону і зьдзеку
І панскага досыць ярма!
Хай будзе раб вольным навекі,
Ён векі цярпеў нездарма!

А ЦЭНЗОР *пагладзіў:*

Ўжо досыць нам з дэмосам ладзіць,
Замала йшчэ меў ён ярма,—
Хай будзе пан панам навекі,—
Ён век панаваў нездарма!

ПОЭТА *пісаў:*

О, віхры, о вы, бураломы!
Ударце ў заснуўшы курган!
Хай волаты ўстануць да бітваў
І скрышаць закрэпы кайдан!

А ЦЭНЗОР *пагладзіў:*

О, ветры, зэфіркі любыя!
Галубце ласкава курган,—
Там дрэмлюць патульныя душкі
Пакорных, паслушных хрысьцьян.

*Увага* ЦЭНЗОРА:

Я крышку вам, пане поэта,
Пагладзіў ваш вершык слабы,—
Бо, бачыце, ў ім я прыкмеціў
Залішне шмат грэшнай кляцьбы.

—

Як гэта поэта пабачыў,
Што цэнзор з поэмай зрабіў,—
Заплакаў, заліўся сьлязамі,
Ў кулак, як жабрак, затрубіў.

Адзін і другі дзень так плакаў—
На трэці ня вытрываў ён,—
Узяў і памёр, як належа,
У вечны ахутаўся сон.

Прад сьмерцяю толькі пакінуў
Таку эпітаф'ю жывым:
«Памёр я праз цэнзора, браткі,
Мяне ня вінеце ні ў чым.

Пакуль мяне цэнзоры секлі,—
Ах, то-ест, поэмы мае,—
Яшчэ я мог вытрываць неяк,—
Пяяць, аб чым думка пяе.

Але як пачалі мне *гладзіць*
Крывёю напісаны твор,
Ня вытрываў, браткі,—каб жыў так!
Узяў я сабе ды памёр!»

—

І сьпіць у магілцы поэта,
Вяночак на насьпе ляжыць;
То сонца магілку цалуе,
То дробненькі дожджык імжыць.

Вясною, у маі вясёлым,
Калі увесь сьвет у красе,—
Дзяўчынка ўздыхне над магілкай,
Хлапец кулаком патрасе.

А цэнзор?—чытач запытае,—
Што сталася з цэнзорам тым?
Скажу, як мне людзі казалі:
Пайшоў ў манастыр на зусім.

Сядзіць там, нічога ня робіць,
Аловак свой выкінуў вон,
І моліцца, моліцца шчыра,
За цэнзораў моліцца ён.

Менск, 14/X—19 г.

## НА ПАПАСЕ

*Абразок з 1906 г.*

Вясеньняя ноч. Непадалёк ад гасьцінца—хвойнік.
Тры падарожныя зьбіраюць гальлё.

1-шы ПАДАРОЖНЫ (прыносячы галіну).

І пуста-ж, пуста ў гэтым лесе!
Нідзе галінкі не найсьці;
Вось тут абсохні і сагрэйся,
Найдзі дарогу ў бяспуцьці.

А помню, ўсё было іначай:
Папас тут меў ты, як папас;
Нічога воз гальля ня значыў,
Агонь ня зводзіўся, ня гас.

2-гі ПАДАРОЖНЫ (кідаючы сук).

Цьфу! Каб ты ўсё пайшло тут прахам!
Ну, і галоцяць людзі лес:
Па сук і то з вялікім страхам
На хвойку чуць я, чуць узьлез.

Яшчэ паўгода, год, і будзе
Бяз бліску вогнішча начлег;
Ня раз, ня два хтось блудам зблудзе
Усякай погані на сьмех.

3-ці ПАДАРОЖНЫ (кідаючы лазіну).

Вось вам дубец лазы лазою!
З карэньня выдзер як ё ўсю;
Змарыўся, змогся, чуць устою.
Каб толькі выкрасіць агню.

Хай бліснe полымя пад неба,—
Пара манаткі абсушыць...
Я падыду па торбу з хлебам,
А вы вазьмецесь распаліць...

1-шы ПАДАРОЖНЫ

Я рад-бы славы даказаці,
Дый сваю губку замачыў.

2-гі ПАДАРОЖНЫ

А я свой недзе цыр затраціў,—
Даўно і люлькі ня курыў.

3-ці ПАДАРОЖНЫ

Ну, добра! Зараз я вярнуся,—
Запаланее мігам лом:
Сярнічак мне дала Кастуся,
Ў мяне яны тут з капшуком.

(Выходзіць).

1-шы ПАДАРОЖНЫ (к другому).

Садзіся, ваша, адпачынем!
Напэўна, спорна умахаў?
Дарожка—хай яна загіне:
Карэньня столькі і канаў!

Дух чалавеку ўпрост вымае,
Ня чуеш костачкі аднэй...
Садзіся, ваша, вось дзе з краю,
Ног зацяганых пажалей.

2-гі ПАДАРОЖНЫ

О, дзякуй, дзякуй, чалавеча!
Я рад спачыну; балазе,
К таму сказаць, і акалечыў
Свой большы палец на назе.

(Садзіцца).

Як неяк холадна на сьвеце,
Хоць май даўно ўжо на дварэ.
Але, але дзе наш той трэці?
Няўжо ўсё хлеб яшчэ бярэ?..

3-ці ПАДАРОЖНЫ (падыходзячы).

А вось і я прышоў нарэшце!
Крыху задлякаўся з канём...
Агоньчык толечы разьвесьці,—
А там закусім, аддыхнём.

(Дастае запалкі).

Запалім... А! вось і навука!
Што гэта значыла-б такі?
Другую маем закаклюку:
Мае замоклі сернікі.

Ня дам нічога з імі рады;
Ўпацёмку трэба папасаць.
Вось не пашэнціла, дапраўды!
Ці-ж думаў хто так прападаць?!

1-шы ПАДАРОЖНЫ

Э, плюнь, суседзе, на ўсё гэта,—
Каб нам такой бяды па-век!

Сьцюдзёна, цёмна, ды ўсё-ж лета—
Ня счэз ніводзін чалавек.

А можа хто яшчэ над'едзе
І зьніме гэты клопат з нас?
Дый пяршыня ці што, суседзе,
Ў дарозе мець такі папас...

2-гі ПАДАРОЖНЫ
Мо' помніш леташнюю восень;
Ўвесь сьвет быў глух, і дзік, і пуст;
Шум ня сьціхае гонкіх сосен:
Здаецца, плача кожны куст.

Здаецца, пеклава вясельле
Ўзьнялося, круціцца, сапе;
Ні бліску зорак, ні прысельля,
Конь толькі пудзіцца, храпе.

Цурком дождж льлецца, як-бы з луба;
Скаголе вецер, як той зьвер,
А мы пад хвойкамі, аж люба,
Начлег спраўляем, як цяпер.

3-ці ПАДАРОЖНЫ (прыслухаючыся).
Пастой, суседзе! нешта чую:
Як быццам фыркнуў мой гняды...
Кром нас, ніхто тут не начуе,—
Каб не набрацісь бяды?!

1-шы ПАДАРОЖНЫ
Сядзеце вы, а я падскочу
І кіну вокам на вазы:

Мо' сена хто наскубсьці хоча,—
Вось шэльме дам дык дам лазы.

(Адыходзячы, чапляецца лапцем за сук і валіцца).

А каб цябе паляруш мучыў!
Чуць-чуць ня вывернўў нагу...
На сук на самы неяк лучыў.
Ну, ўжо гатова, ўжо бягу.

(Па нейкім часе варочаецца з Незнаёмым).

Вось вам і злодзея на рукі
На вашы гэттака здаю...
Ня многа меў я з ім дакукі,
Пачуў ён сілу, знаць, маю.

У спрэчку доўгую ня ўходзіў:
Пайшоў, куды сказаў яму.

98

НЕЗНАЁМЫ

Пакінь плясьці! Я вам ня злодзей,
І лаяць так няма чаму.

Я гэткі самы падарожны,
Як вось і вы, мае людцы;
Закінуць тое толькі можна:
Я без каня, а з коньмі вы.

Але, як вы, шукаў начлегу,—
Яго між вамі думаў мець,
Дый ня туды, як бачу, ўехаў.
За блуд прыходзіцца жалець.

2-гі ПАДАРОЖНЫ

А як васана нам пазнаці,
Што, як сюды ішоў, ня меў
Нічога злога даканаці,
Што нават думаць не пасьмеў?..

3-ці ПАДАРОЖНЫ

А праўду, праўду сват гавора,
Мы тое скажам усе тры:
Куды ідзеш? Дзе быў учора?
Што ты за штука?

УСЕ ТРЫ

Гавары!

НЕЗНАЁМЫ

На рукі гляньце з мазалямі,
Грудзём прыглядзьцеся худым,
І кій і торба за плячамі
Найлепей скажуць аб усім.

З гразёй ня будзеце мяшаці,
Далей адпусьціце ісьці...
І вас чакаюць дзеткі ў хаце,
І вы бяспутнікі ў жыцьці!

Вось лепш асьвецім гэту кнею—
Сьвятлу з нас пэўне ўсякі рад...
Я гаварыці казкі ўмею,
І песень такжа ўмею шмат.

1-шы ПАДАРОЖНЫ

Як бачым, ты глядзіш іначай.

2-гі ПАДАРОЖНЫ
Відаць, ня злодзеевы род.

3-ці ПАДАРОЖНЫ
А хто-б падумаў? Так прастачы
І твой убор і твой паглёд!

1-шы ПАДАРОЖНЫ
І казкі ўмее і за песьняй,
Відаць, ня пойдзе ў кішаню.

2-гі ПАДАРОЖНЫ
Адно бяда,—што, хоць ты трэсьні,
Ня можам выкрасіць агню!

НЕЗНАЁМЫ
Усё, усё мець зараз будзем:
Заўсёды ё ў мяне сьвятло,
І з ім мы тут не замарудзім
Лясным падсуседзям на зло.
(Запальваючы лом).

Гары, гары, ламок, агніста!

Вы, браткі, сядзьце у кружок,
І да зары да залацістай
Нас будзе слухаць сасьнячок.

Адкуль—ці песьняю, ці казкай—
Пачаць вам думкі весяліць?

3-ці ПАДАРОЖНЫ
А ўжо, калі там ваша ласка,
То й песьню можна закаціць.

1-шы ПАДАРОЖНЫ

А посьле скажаш, дабрадзею,
Хто ты, адкуль, куды ідзеш?
Цаніць людзей і мы умеем,
Хоць маем гэткіх што раз менш.

НЕЗНАЕМЫ

Ну вось і слаўна! Што больш трэба?—
Агонь, суседзяў грамада;
Навокал лес, над лесам неба,
А там—і зорак чарада.

Люблю я гэткія прыцуды!
Тут чалавек—як чалавек;
За думкай думка мкнецца ўсюды,
Сон не чапляецца павек.

(Пяе).

Жыў на сьвеце Лявон,
Молад, дужы быў ён,
Толькі з воляй і доляй ня бачыўся:
Сонны сэрцам, душой,
Драмаў ў хаце крывой,
А выходзіў—сьлязамі сьлед значыўся.

Аж вось чуе Лявон
З усіх клікі старон,
Што ён дурань, жыве пабыдлячаму,
Ды сам тут зразумеў,
Што дум сьветлых ня меў,
Што падобен быў дрэву хадзячаму.

Зварухнуўся Лявон,
Як вада, як агонь,
Пазнаў сілу ў сабе нябывалую;
Ўжо бяда—не бяда,
Ўжо нуда—ня нуда,
Запеў песьні свае разудалыя.

Зямля стогне, дрыжыць,
Як пяе, як крычыць,
Як прасьвету сабе дамагаецца;
Аж ад песень такіх
Страх напаў на другіх,
І вось чорная моц падымаецца.

І пайшло ўсё ўверх дном.
Сьвісты, енкі кругом,
Груганы на здабычу зьлятаюцца:
Шчасьце даць бедаку
Ня ўсім шло на руку,—
Ня ў руку, што Лявон прачыхаецца.

Дарма сілен Лявон
І адважны так ён,—
На падмогу дарма ён надзееца:
Галаву у баю
Даў за праўду сваю,—
Толькі памятка—насып віднееца.

Ляжыць, дрэмле Лявон,
На грудзёх вырас клён;

Калі-ж вецер на сьвеце расходзіцца,
Шуміць шумна той клён:
Яшчэ ўстане Лявон—
Гэй, Лявоны у нас не пазводзяцца!

(Пераставўшы пяяць).

Вось і канец вам песьні-байцы,
Ці ў ёй панятна толькі ўсё?..
Калі ня так што—выбачайце,
Даконча ваша вам жыцьцё.

1-шы ПАДАРОЖНЫ
О, песьню важную такую
Ня пойме толькі гліны ком...
Цяпер няхай-жа мы пачуем
Што трохі аб жыцьці тваём.

2-гі ПАДАРОЖНЫ
А я крыху гальля падбаўлю.

3-ці ПАДАРОЖНЫ (да другога).
Я памагу табе крыху.

1-шы ПАДАРОЖНЫ
Аброці коням я папраўлю.

(Адыходзяць усе тры).

НЕЗНАЕМЫ (усьлед падарожным).
Я адпачыну на маху.

(Адзін).

О, люд мой, лапатны, патульны.
За што цябе я так люблю?

За што твой гоман неразгульны
І думкі ўсе твае лаўлю?

Ты лёг мне каменем на сэрцы,
Які ня ў сілах зваліць я...
Што тут пачаці ў паняверцы?
Жыві ў жыцьці і бяз жыцьця.

Ідзеш-брыдзеш, а на дарозе—
То косьць, то камень, то бадыль;
У брата станеш на парозе,
А ён табе... О, божа, крый!..

Нясі ў мяцеліцы, ў разводзьдзі,
Свайго цярьпеньня нясі крыж.
Калі-ж праглянеш ты, народзе,—
Арліным лётам узьляціш?



Пасьцель пуховую пасьцелеш
Сваім замучаным дзяцям,
Нясьмелых песьняю асьмеліш,
Якой сягоньня бедзен сам?..

Як страшна збуджаным хадзіці
Між наспаў, зломаных крыжоў!
У мокры пень агонь красіці,
Склікаць аплучаных дружкоў...

Тяк цяжка, цяжка, дзе ні глянеш,—
Касою крыўды хоць касі!
Калі-ж, народзе, ты устанеш
І сонцу голас падасі?

ПАДАРОЖНЫЯ (падыходзячы).

А вось і мы! Цяпер зноў сядзем...

НЕЗНАЕМЫ

Цяпер зноў сядзем... ну, і што-ж?
Ага! гістор'ю нашу зладзім,—
Адточым востра ўсё, як нож;

А можа трапім ёю ўгрудзі,
У грудзі з дзерава людзей...

ПАДАРОЖНЫЯ

Што-ты? Ці-ж мы такія людзі?
Жартуеш хіба, дабрадзей!

НЕЗНАЕМЫ

О не, крый божа! Ось зьняўцёку
Зьляцела слоўца з языка...
Так штосьці ў сэрцы мне нялёгка,
Ну, і паднесла бедака...

Хто я і скуль—для вас цікава;
О, не вялікі гэта цуд:
Радзіўся, рос, ляцеў за славай,
Ляцеў, ажно спынуўся тут.

Убачыў дзень я ў сельскай хаце;
Бацькі у беднасьці жылі:
Канёк, кароўка—ўсё багацьце,
Ды гоняў двойчы—ўсёй зямлі.

Чытаць, пісаць крыху навучылі,
Але ня выўчылі зусім;

Сам з часам кніжны лад асіліў—
І толк у ім даваў другім.

Мёд салодкі і атруту
Суліць страніца стала мне;
Я думкі ёю ўсе апутаў:
Ня знаў—на яве я ці ў сьне.

Цямноты ўсю паняў няздарнасьць,
Я сілу знаньня ўсю паняў;
Свайго жыцьця я бачыў марнасьць,
Аж на сябе я рукі ўзьняў.

Але ня суджана было мне
Душой бяз часу загавець,
І сам ня знаю ўжо сягоньня
Жалець таго ці не жалець.

Ішлі гадочкі за гадамі.
Я ў сілу рос і ў розум рос,
Дый не расьце пацеха з намі,
Як там ні жалімся на лёс.

Што раз зваднейшыя ўсё леты,
Што раз цяжэй на грош і хлеб.
Пайсьці у сьвет—бацькі мне сьветам,
А хата мне—астрожны склеп.

Сьмяецца неба непагодай,
Шыбець скаціну нейкі звод,
Зямліца дзеліцца няўродай,
За годам выплаканы год.

Аж бацьку гора з ног зваліла,—
Пайшоў на той сьвет без пары;
У год капай зноў тры магілы:
Зьлёг брат і дзьве зьляглі сястры.

Пайшло няшчасьце за няшчасьцем;
Я кут пакінуць мусіў свой...
Дзе ступіш—сьмешкі ды напасьці,
Хоць налажы ты галавой.

Пазнаў куткоў чужых сьцюдзёнасьць,
Нагайку службы я пазнаў,
У сьлед мая шла бяспрытоннасьць,
З ёй вецер песьні напяваў.

А думкі рваліся да сонца,
Туды—да ціхіх, добрых зор,
Да волі, шчаснасьці бясконца
З пустынных ніў, з гаротных гор.

Ліў нейкі мне таёмны голас
Праявы дзіўныя ў душу;
Іх чуў, як чуе сонца колас,
І думаў—зло сваё скрышу.

. . . . . . . . . . . . . .

Іду... Куды ісьці сягоньня?
Аднэй няма, а шмат дарог...
Адлогам родныя сьпяць гоні,
Іржа на вышках есьць нарог.

На траме ўверчана анучай
Ляжыць няклеплена каса;
На сьцежках мох расьце калючы,
На ім—чырвоная раса.

Руцэ народнай набіваюць
Плугі чужыя мазалі,
Чужыя коні папасаюць
На абязволенай зямлі.

Йдуць песьні, казкі ў дамавіну,
Якія дзед сьпяваў, складаў;
Свае жалейкі люд закінуў,—
Чужым сьвісьцёлкам месца даў.

Узносе пасынкам пакорным
Бяда цямнічныя муры,
І сеткі путае праворна,
І ладзіць здрадна хаўтуры.

Адно чуваць, як быццам штосьці,
З-пад сонных наспаў, з-за мяжы,
Дзе дрэмлюць прадзедавы косьці,
Дзе час варочае крыжы,—

Штось варушыцца у бясьсільлі,
Ці-ж бы там быў жывых папас?..
Няўжо нябожчыкаў зьмянілі,
Няўжо нябожчык кожны з нас?..
. . . . . . . . . . . . . . . .

Але ўжо блізка і сьвітаньне;
Пара ўзьнімацца ўжо, пара!
Пакуль к нам з неба сонца гляне,
Жджэ не адна мяне гара,

І вам пара вазы ўжо ладзіць,
К дарозе коні рыхтаваць:
Раней лепш стануць у парадзе,
Чым на папасе пераспаць.

Цяпер, каторы з вас пасудзіш
Мяне за злодзея свайго?

1-шы ПАДАРОЖНЫ
Ты ня тутэйшы, мусіць, будзеш
Або і горай ад яго?

2-гі ПАДАРОЖНЫ
Цікава, вельмі ўжо цікава
Ўся гэта гутарка твая,
Але такую меці славу
Не пахваліўся-б, браце, я.

3-ці ПАДАРОЖНЫ
Так з кута ў кут век вандраваці,
Як мне здаецца—без патрэб...
Ці-ж то ня лепш сядзець у хаце
І у спакоі есьці хлеб?

НЕЗНАЁМЫ
Э, што!.. Бывайце, людзі, жывы!
Дзе толькі торба і мой кій?..

Гэй, сыпма далей, там на нівы,
Хоць гром грымі, хоць віхар вый!

Яшчэ спаткаемся калісьці—
За год, за колькі мо‘ гадкоў,
Як зьвянуць сёлетнія лісьці,
Як прыдзе «радаўніца» зноў.

(Адыходзе, напяваючы).

Жыў на сьвеце Лявон,
Молад, дужы быў ён...

1-шы ПАДАРОЖНЫ

І дзіўны-ж гэты чалавечак!
Чаго ён хоча ад другіх?..

2-гі ПАДАРОЖНЫ

Ці-ж мала ёсьць такіх авечак?
Ат, толькі сьмех глядзець на іх!

3-ці ПАДАРОЖНЫ

А я скажу вам, ягамосьці:
Сыходзе з поля маладзец;
Злавіў там з кніжак штось, чагосьці,
Ну і вар‘юецца ў канец.

(Чуваць конскі топат).

1-шы ПАДАРОЖНЫ

А гэта што зноў за праява:
Каго нячысьцік нясе так?

2-гі ПАДАРОЖНЫ

Бадай, запутаная справа,—
Вун, вун—адзін, другі яздак.

3-ці ПАДАРОЖНЫ
Сюды на вогнішча к нам едуць,
А з імі—нейкі важны чын.

1-шы ЯДЗАК (шыбка пад'яжджаючы).
Ці не маглі вы бачыць, ведаць—
Сюдой вандроўнік шоў адзін?

ПАДАРОЖНЫЯ
Не, не, паночкі! мы ня знаем,
Мы тут начуем толькі ўтрох,
І зараз самі ад'яжджаем:
На рынак ладзімся, на торг.

2-гі ЯЗДАК
Паедзем далей, тут нічога
Нам не паказвае на сьлед.

3-ці ЯЗДАК (да падарожных).
А як вы ўбачылі-б такога,—
Злавіць, зьвязаць—і к нам чым сьвет!
(Ад'яжджаюць).

1-шы ПАДАРОЖНЫ
Чакайце толькі, покуль буду
Нагу яму я падстаўляць.
Каб чуць раней, а ўжо бяз труду
Маглі-б гуртом бядягу ўзяць.

2-гі ПАДРАОЖНЫ
А шкода, шкода было-б хлопца!
Тыкі-ж ён нейкі чараўнік...

3-ці ПАДАРОЖНЫ

Ні думаць! Як мы—рос у вёсцы,
Як мы—такі ён сам' мужык.

1-шы ПАДАРОЖНЫ

Зайдзі ка мне—я даў-бы хлеба.

2-гі ПАДАРОЖНЫ

Апраткі-б я не пажалеў.

3-ці ПАДАРОЖНЫ

Каб начаваць было патрэба,—
Папас найлепшы ў мяне-б меў.

1-шы ПАДАРОЖНЫ

Запраўды, так гавора важна.

2-гі ПАДАРОЖНЫ

А ўжо-ж ганяюць не здарма!

3-ці ПАДАРОЖНЫ

І песьню так пяе працяжна!..

1-шы ПАДАРОЖНЫ

Душу, здаецца, рве яна.

2-гі ПАДАРОЖНЫ

А ці ты помніш усю чыста?

1-шы ПАДАРОЖНЫ

Пачатак помню я увесь.

2-гі ПАДАРОЖНЫ

А я—сяродак галасісты.

3-ці ПАДАРОЖНЫ

А мне канец у вушы ўлез.

(Разыходзяцца, напяваючы).

Жыў на сьвеце Лявон,
Молад, дужы быў ён—
Толькі з воляй і доляй ня бачыўся...

## ЗЬМЕСТ